# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



## *Да паважаных Айцоў Настаяцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня 1. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

1-15 сьнежаня 1928 году

Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; да канца году — 3 зл.

№ 7—8

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.



## Вільня.

Вялізны горад, цесна зьбіты,
Увесь блескам сонейка заліты,
Займаў узгоркі і нізіны.
Дамы цягнулісь як віціны,
То ўдоўж, то ўпоперак радамі.
То закрываючысь садамі.
А між дамоў, як-бы срэдзь горак,
Тых ручаінак сьветлы ворак,
Віліся вулачкі так, гэтак
Густою тканьню шэрых клетак
Угары, высока над дамамі
Пазалочонымі крыжамі
Бліщчэлі цэрквы і касьцёлы,
На сонцы зьзяючы вярхамі;
І гоман іх званоў вясёлы
Гудзеў над горадам магуча,
Прыемна, гучна і пявуча:
Налева, між гор крутабокіх
У берагох сваіх высокіх
Па камянях, як тая зьмейка
Вілась шумлівая Вялейка,
І дзесь то нікла за гарою,
Крутнуўшысь хараша дугою.
А справа, ўніз, свабодным ўзмахам
Лягла другая рэчка шляхам.
Як-бы сталёвая пружына;
То Вілія—Літвы дзяціна—
Нясласяя важна між абрываў
Бліскучай стужкай зграбных зьвіваў.

Я. Колас.

# Зара Хрысьціянства.

Была зіма,—зіма поўдня—з дрэвамі бяз лісьця і пладоў, з частымі дажджамі, з сьвісьцячым ветрам, з начамі халоднымі і жудаснымі.

Па гарадох Іудэі кіпела жыцьцё — бо рымскі імпэратар Цэзар Аўгуст даў загад перапісаць усе падуладныя яму народы, і ўсе павінны былі іосьці запісацца ў свой родны горад.

Падпарадкуючыся гэтаму загаду, пайшоў з Назарэту ў Віфляем і стары сталяр Язэп з абручанай яму Дзевай Марыяй, бyўшай ня празнай. Яны былі вельмі бедныя і не маглі за грошы купіць сабе той прытулак, які багатыя знаходзілі сабе нават у самых перапоўненых гатэлях.

Змораныя доўгай 3-х дзеннай падарожжай па горных шляхох, сьвятыя падарожнікі падыходзяць то да аднаго, то да другога дому, просячы пусьціць іх на ноч. Яны абыйшлі ўсе вузкія і брудныя вуліцы Віфляему, але ніхто ня зьлітаваўся над беднымі падарожнымі.

Пахадзіўшы дарэмна ў цемнаце і холадзе па Віфляемскіх вуліцах, яны ўрэшце апынуліся за местам, знайшлі пустую пяшчэру, у якую пастухі падчас непагоды заганялі быдла. І зайшлі яны ў хлеў, дзе было хапя-ж трошкі зацішней ад ветру, дажджу і дзе не адчувалася начная сьцюжа.

І тут у гэтым хляву адбылося вялікае здарэньне: на горбачцы саломы быў паложаны, радзіўшыся ў плоці, Цар Віфляемскі, тут знайшоў сабе мейсца Той, хто прышоў дзеля таго, каб сваёй крсўю спасьці род чалавечы.

Якое страшное паніжэньне перацярпеў Бажэсьцвены Спасіцель ужо пры самым нараджэньні Сваім! Ужо пры нараджэньні Яго збыліся словы Сьвятога Пісаньня: „Во своя прійде і свої Его не пріяша“. Людзі не далі яму нават і столькі мейсца, каб прытуліць галаву.

Дзіцятка Іісус ляжыць у пяшчэры, у жалабу, а з людзей нават ніхто і ня думае аб тым, што здарылася на зямлі, ніхто ня думае, што Бог зыйшоў з неба на зямлю, што Слова стала Целам.

У гэтую цудоўную, у гэтую сьвятую ноч недалёка ад пяшчэры Спасіцеля толькі пастухі ня спалі, яны пільнавалі стадкі і разлажыўшы вогнішча грэліся каля дыміўшыхся трашчучых сукоў. Яны ня спалі па сваяму абавязку ў гэтых гадзінах, у той час, як спаў Віфляем, спаў Ерусалім, спала ўся Ерусалімская зямля; спала ўсё чалавецтва, увесь сьвет быў ахоплены сном, — ня ведаючы, што ў гэтую часіну адбываецца пералом ва ўсім чалавечым жыцьці, у лёсе былых, сучасных і будучых людзей.

Пакуль што апрача Дзевы Марыі, старога Язэпа, толькі некалькі ласкавых пар вачэй кароў ды валоў бачылі сьвятое Дзіця.

Пастухі пільнавалі стадкі. Сукі трашчалі, гарэлі і дымілі, і неяк цішэй гучала звычайная гутарка гэтых людзей, —часьцей перарываліся галасы, цяжэй з вуснаў выходзілі словы. Хацелася маўчаць, бо нешта ня выразнае, нешта надзвычайнае, незразумелае, спавівала зямлю.

Нейкае шчасьце, даўно, пяць з палоаю тысяч гадоў згубленае шчасьце, сходзіла з неба да сэрцаў людзей і перад усім да гэтых простых пастухоў, якія пасьлі стадкі каля гэтае пяшчэры з жолабам.

Цемень начная прайшла. Паміж небам і зямлёй ужо блізка-блізка каля іх гарэла, пералівалась, сіяла, трапятала цудоўная зорка. Нешта новае, цудоўнае ўлівалася ў іх душы, сэрцы біліся, вочы разгараліся. Ніколі ў іх жыцьці ня было падобнае хвіліны.

Яны маўчалі — маўчалі... І раптам перад імі зьявіўся Ангел у сіяючым сьвеце і сказаў: „Ня бойцеся. Я прынёс радасную вестку ўсім людзям. У месьце Віфляеме радзіўся Спасіцель—Хрыстос. Ідзіце — паглядзіце. Ен у пелянах ляжыць у жалабу“.

І паплыла Ангельская песьня. Гэта была песьня якой чакалі і не дачакаліся ўсе дагэтуль жыўшыя і цярпеўшыя пакаленьні. Гэта была песьня праба-

чэньня і згоды, абяцаючая вечнае шчасьце Тут ня было водгуку таго, што паліла і мучыла людзей, успамінаў згубленага шчасьця, жалю, раскаяньня граху. Тут было адно неабмежаванае шчасьце.

Гукі калыхаліся паміж небам і зямлёю. Самае неба расчынілася, — зоры ў тым мейсцы разсунуліся па абодвым бакам, і паліліся тонкія, залатыя струі да стада і пастухоў,—і ў гэтых струях, як жывыя ўсходы ад Віфляема і да неба, відны былі ангелы; гэта іх вусны пяялі песьню згоды, пяялі і паўтаралі ўсе адныя словы: „Слава в вышніх Богу і на землі мір, в человецех благоволеніе“.

Але людзі... людзі ўсе спалі.

Над пячэрай сіяў цудоўны сьвет —людзі спалі і ня бачылі яго.

Зыйшоў з неба ў надзвычайным адзеньні ангел—людзі спалі і ня бачылі яго.

Неба расчынілася, ноч заблішчэла надзвычайным сьветам — людзі спалі і ня бачылі гэтага.

Паплыла цудоўная ангельская песьня — людзі спалі і ня чулі яе. Іх ня цікавіць, што зьявіўся нябесны Пастыр, каб вызваліць іх.

Так было даўно—19¹/₄ стагодзьдзяў таму назад. А цяпер?.. Ці-ж мала такіх і сярод нас, душы якіх знаходзяцца ў каменным сьне?

Ці-ж мала такіх, якія амаль ня думаюць аб Хрысьце і зусім да яго ня прывязаны?

У іх іншыя прывязаннасьці, іншыя думкі, іншыя клапоты, іншыя радасьці, іншы бог і спасіцель.

Дзіцятка Ісус ляжыць у жалабу. Людзі адпіхнулі Яго ад сябе. Гэтаму Дзіцяці належыць увесь сьвет, належыць усё, што ёсьць у сьвеце, і чым сьвет уладае. А між іншым Дзіцятка Ісус ляжыць у жалабу. У Віфляеме не знайшлося ў хаце мейсца для сьвятога Дзіцяці, людзі адпіхнулі Яго ад сябе.

І як было ўперад так і цяпер.

Як часта Гасподзь хоча вайсьці ў чалавечае сэрца, якое зьяўляецца Яго сьвяшчэннай уласнасьцю, якое Ен стварыў і адкупіў коштам Свае сьвятое крыві. Як часта Ен хоча вайсьці і застацца ў ім.

Гасподзь стаіць каля дзьверы гордага і кажа: „Сыне, дай мне свае сэрца!“ Але Яму адказваюць: „Няма мейсца, бо яно занята скупасьцю“. Каля дзьверы эгаіста, п'яніцы, распустніка, зладзея, душагубца і г. д. і г. д.—і ўсё атрымлівае адзін адказ: „мейсца занята“.

І як у тую халодную, непагодную ноч Гасподзь быў пакінены, так і цяпер шмат хто з нас адпіхае Яго ад сябе. Няма мейсца Госпаду ў нашай душы,—яна ўся занята парокамі, страсьцьмі, злосьцю, ненавісьцю, і рожнаю іншаю подласьцю.

Алё гэта яшчэ ня ўсё. Есьць людзі якія, для сваяго няшчасьця і ў ганьбу для нас, радзіліся і застаюцца ў хрысьціянстве, але зьдзекуюцца з Хрыста, не прызнаюць Яго, як Найвышэйшага Тварца.

Усе стыхіі сьведчылі, што прыйшоў Стварыцель іх, Яго прызнала Богам неба, бо зараз па нараджэньні Яго паслала зорку. Яго прызнала мора, бо зрабілася цьвёрдым пад нагамі Яго. Яго прызнала зямля, бо задрыжэла падчас сьмерці Яго. Яго прызнала сонца, бо схавала свае праменьні ў хвіліну сьмерці Яго.

Яго прызнала пекла, бо звольніла па сьмерці Хрыста знаходзячыхся ў ім нябошчыкаў.

Усе стыхіі разам з Ангеламі, усхваляючы нованароджанага Ісуса, пяялі, што Ен — Бог.

Але вернемся зноў да тае памятнае ночы.

Ангельская песьня сьціхла і спынілася, як усё на зямлі адбываючаеся ў часе. І сказалі пастухі друг да дружкі: „Пайдзем у Віфляем і паглядзім, што там здарылося“. І знайшлі яны там у жалабу ляжачае Дзіцятка і расказалі Дзеве-Марыі ўсё, што бачылі і чулі.

Водгук-жа тае песьні гучэў у іх душах доўга-доўга, аж пакуль яны самі не перайшлі ў новы сьвет жыцьця. А ангелы ў тую ноч ужо не калыхаліся больш усходамі ад Віфляемскага поля да неба.

Толькі Дзіця адно засталося з грэшнымі.

**А. К.**

# Пачатак Хрысьціянства на Беларусі.

Беларускія купцы спушчаліся па Дняпры да Чорнага мора і гэным морам даплывалі ажно да Царгараду. Рабілі нашыя продкі і паходы на Царгарод. З другога боку грэцкія купцы бывалі таксама часта ў Беларусі. Стыкаючыся з грэкамі, нашыя продкі патроху пераймалі ад іх хрысьціянскую веру ўсходняга, грэцкага абраду. Таргавалі таксама старавечныя беларусы з заходнімі народамі Ад гэтых народаў такжа пераходзіла да нас хрысьціянская вера—заходняга, лацінскага абраду.

Гэткім парадкам у 10-м веку яшчэ да хрышчэньня кіяўлян князем Уладзімірам, на Беларусі ўжо былі хрысьціяне і нават былі царквы ў Полацку і ў Тураве,

Пасьля хрышчэньня кіяўлян у 988 годзе хрысьціянства ўсходняга абраду пачало хутка пашырыцца на Беларусі і такім чынам увесь беларускі народ стаў хрысьціянскім. Княгіня Рагнеда прыняла хрысьціянства, жывучы ў Заслаўі, і стала манахіняй. Хрысьціянства нашыя продкі прыймалі самахоць, бяз ніякае прынукі з боку князёў, або чужнікаў.

Тыя з беларусоў, якія раней прынялі хрысьціянства лацінскага абраду, з часамі таксама перайшлі да ўсходняга абраду, бо хрысьціяне лацінскага абраду былі немцы. А калі немцы пачалі нападаць на Беларусь, то нашыя продкі, ня любячы іх, ня любілі і іхняе веры.

З прыняцьцем хрысьціянства на Беларусі пачала пашырацца асьвета. Закладаліся школы, у якіх вучылі чытаць, пісаць і лічыць. Духавенства павінна было быць пісьменным, дык наўперад закладалі школы для дзецей, што вучыліся на сьвяшчэньнікаў, а потым і для іншых. Для багаслуж'эньняў патрэбны былі кнігі Дзеля гэтага пры манастырох пачалі закладацца школы, у якіх вучылі чытаць і перапісваць царкоўныя кнігі. Пісалі тады славянскімі літарамі, якімі цяпер друкуюцца царкоўныя кнігі паславянску. Пісьмо гэтае выдумалі славянскія апосталы, браты сьвят. Кірыл і Мяфодзій. Яны былі родам з горада Салуня, цяпер Салонікі. Есьць весткі, што ў той час каля гор. Салуня жыла частка беларускага племяні Дрыгвічоў. Грэкі называлі іх Другувітам.. Гэтая частка дрыгвічоў у XIII веку адлучыліся ад сваіх братоў з над Нёмана, Прыпяці і з свае бацькаўшчыны пераязліліся на ўзьбярэжжа Мрамарнага мора, каля Салуня.

У часы сьв. Кірылы і Мяфодзія Другувіты былі хрысьціянамі і мелі сваяго япіскапа. Значыцца, сьв. браты Кірыла і Мяфодзій былі таксама беларусы. і першыя царкоўныя кніжкі перакладзены на тагачасную беларускую мову.

Асьвета разьвівалася на Беларусі хутка, дзеля чаго ў нас былі ведамыя далёка ў сьвеце свае вучоныя кніжныя людзі З кніжных людзей асабліва адзначыліся: у Смаленску—сьвяшчэньнік, а пасьля і мітрапаліт, Клімэнт Смаляціч, у Тураве—япіскап Кірыла Тураўскі і ў Полацку — князёўна Прадслава Еўфрасіньня.

Клімэнт Смаляціч жыў у 12 веку і адзначаўся, як грамадзкі дзеяч, палітык і арганізатар. Япіскап Кірыла Тураўскі—як надзвычайна добры царкоўны аратар-прамоўца, а сьв. Прадслава-Еўфрасіньня Полацкая палажыла вялікія заслугі пашырэньнем кніг на Беларусі.

# Берасьцейская царкоўная вунія 1596 г.

Дзяржаўная Люблінская вунія забясьпечвала Польшчы палітыка сацыяльны і часткаю культурны ўплыў на Беларусь. Але быў яшчэ адзін факт у жыцьці злучаных дзяржаваў, які ставіў перашкоды для скасаваньня асобнага твару вялікага княства: у Польшчы панавала заходняе хрысьціянства, каталіцтва, на Беларусі — усходная, праваслаўная вера. Гэты факт, апроч таго, блізіў Беларусь да Масквы, з чым Польшча не магла згадзіцца. Разумееца, што за вуніяй дзяржаўнай павінна было падняцца пытаньне і аб царкоўнай вуніі. Гэтае пытаньне паднялося-б раней 1596 году, каб ня было нейкай прычыны, якая адлажыла яго амаль што не на 30 гадоў. Такой прычынаю быў рэфармацыйны рух, падняты ў Польшчы і пагражаўшы, як каталіцкай, так і праваслаўнай веры. Былі такія часы, калі можна было думаць, што рэфармацыя, пашырыўшыся ў абедзьвюх дзяржавах, скасуе рэлігійную праціўнасьць паміж імі.

Рэфармацыйны рух прышоў у Літоўска-Беларускую і Польскую дзяржавы зараз-жа пасьля пачатку яго ў Нямеччыне, у першай чэцьверці 16-га стагодзьдзя. Зьявіўся ён у палацы караля і вялікага князя Жыгімонта Старога. Тут яго стаў пашыраць духаўнік жонкі караля Боны, Францішак Ліппамані. З палацу караля і вялікага князя рэфармацыя выйшла на вуліцу. Гаспадары Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст не рабілі ніякіх перашкодаў для рэфармацыйнага руху. Шмат духоўных асобаў кідалі свой сан і станавіліся на чале новага вучэньня. Сярод вышэйшых станаў больш пашыраўся кальвінізм, а лютэранства зацікаўлівала мяшчанскую клясу. У палавіне 16 стагодзьдзя ў землях гаспадарства рэфармацыя мела такі ўплыў, што сучасьнікі, гаворачы аб шляхце, лічылі яе цалком пратэстанцкай. І тут была нейкая праўда. Вядома, напрыклад, што ў Навагрaдзкім ваяводзтве з 600 фаміліяў праваслаўных шляхцічаў асталося ў старой сваёй веры ўсяго толькі шаснаццаць. Беларусь стала месцам разьвіцьця рэфармацыйнай навукі і прасьветы. У Несьвіжы працавала добра арганізаваная друкарня князя Мікалая Радзівіла Чорнага, вялікага маршалка Літоўска-Беларускага Гаспадарства. Тут-жа зьбіраліся выдатнейшыя прапаведнікі і вучыцялі кальвінізму. Прыняў кальвінскую веру і сам Радзівіл, за ім пацягнулася і акалічная, залежная ад яго высокай пасады і вялікай маетнасьці, шляхта. У Польшчу, Літву і Беларусь уцякалі людзі вольнага настрою рэлігійнай думкі, каторых гналі ў другіх краёх. У 1555 годзе з Італіі ўцёк у Кракаў Леліў Соцын, каторы не прызнаваў патройнасьці боства. Яго рэлігійныя пагляды, вядомыя пад назовам соцыніянства, антрынітарства і унітарызму, з Кракава хутка сталі пераходзіць і на Беларусь. У 1554 годзе павінен быў пакінуць сваю бацькаўшчыну — Маскву Феадос Касы са сваімі аднадумцамі. Ен, як і Соцын, але зусім незалежна ад яго, таксама вучыў аб адзіным, нятройцым боства. У пачатку ён працуе ў Віцебшчыне, потым пераяжджае ў Вільню. Усе сучаснікі гавораць, што гэта быў чалавек вялікай энэргіі і розуму і быў вельмі добры прапагандысты сваее рэлігійнае навукі. Заслаўе, Менскага павету, і Любча, Навагрaдзкага павету, у сваіх друкарнях працавалі над выданьнем кніжак антытрынітарскага, унітарскага кірунку.

Трэба зазначыць, што рэфармацыйны рух у Польшчы, Ліцьве і Беларусі ня меў усё-ж такі пад сабою пэўнага грунту. Ен меў у сабе такія недахопы, каторыя рабілі яму вялікую шкоду. Найперш, ён не даваў адзінай рэлігійнай тэорыі: ён распадаўся на шмат самых розных, непадобных адна да аднае, сэктаў. Такіх сэктаў можна было ў той час налічыць больш, як 70. І кожная з гэтых сэктаў лічыла праўдзівай толькі адну сябе і змагалася з іншымі сэктамі. А гэта было якраз ў той час, калі заняпаўшая каталіцтва зноў паднялося, арганізавалася і лічыла свае сілы на Трыдэнцкім саборы; калі яно высунула такіх сільных і практычных працаўнікоў

на карысьць папства і царквы, як езуіты. Апроч таго, што рэфармацыйны рух, як у Польшчы, так і ў Беларусі, ня быў глыбокім рухам. Ен ня спусьціўся ў народныя нізы, не абурыў іх розуму і пачуцьця, не падняў там палітычных і сацыяльных пытаньняў. Ен лёгка закрануў розум і толькі розум шляхоцкага і мяшчанскага станаў. Мужык таго часу ўжо глыбока опусьціўся ўніз па сацыяльных сходах і ня цікавіў ня толькі паноў-пратэстантаў, але нават тых рэфармацкіх дзеячоў, якія тут працавалі. Беларусь і Польшча, як мы казалі вышэй, ня мела свайго Тамаша Мюнцара, каторы рэфармацыю ў Нямеччыне зрабіў мужыцкай справай. Усе гэтыя недахопы загубілі ў нас такі цікавы, паступовы рух, як рэфармацыя,—і адкрылі дарогу для клерыкальнага настрою грамадзянства ў Польшчы.

Мы ня будзем тут даваць гісторыю і рабіць характэрыстыку ордэну езуітаў. Усё гэта добра вядома з агульнай, заходняй гісторыі. Мы толькі адзначым, што езуіты, як арганізацыя, ёсьць тыповая партыя нашага часу. Яна мела сваю праграму максімум (Божую славу на зямлі), сваю праграму мінімум (пашырэньне каталіцтва і ўлады папы); мела практычную, а не ідэалістычную мараль і этыку, чыста вайсковую дысцыпліну і добра пастаўленую канспірацыю. Усе гэтыя факты рабілі ордэн магутнай сілай, каторая, дзе-б яна не зьявілася, пачынала хутка і энэргічна сваю больш палітыка-грамадзкую, чым чыста рэлігійную працу. Так было і на Беларусі і ў Польшчы.

Выклікаў езуітаў з Захаду для змаганьня з рэфармацыяй віленскі каталіцкі біскуп Валярыян Пратасэвіч. Езуітаў ня трэба было доўга клікаць на працу. У 1569 годзе, якраз у час Люблінскай вуніі, пяць чалавек езуітаў ужо пачалі сваю працу ў Вільні. Усё гэта былі людзі разумныя, вучоныя, добрыя прамоўцы, энэргічныя і стройна арганізаваныя. Найраней трэба было ім захапіць у свае рукі палітыку. Для гэтай мэты яны ўвайшлі ў палацы заможнага панства, як духаўнікі, як дарадчыкі, як дамовыя настаўнікі Узяўшы ў рукі сумленьне магнатаў і робячы уплыў на іх розум, яны дасталі магчымасьць здабыць і матар'яльную, эканамічную забясьпеку на сваю працу. Забясьпечыўшы свой палітычны ўплыў і эканамічнае палажэньне, ордэн прыняўся за народныя масы. Сярод народнай масы найлепшы матар'ял для ўплыву складае моладзь. З яе пачынае сваю працу партыя, з яе павінны былі пачаць сваю працу і езуіты. Хутка ў Вільні езуіты заснавалі сваю школу, так званы колегіум. Закранутае рэфармацыйным рухам грамадзянства, спачатку ня пушчала сваіх дзяцей у каталіцкі колегіум, але езуіты ня спынялі працы, хоць ува ўсёй школе ў іх было толькі 15 вучняў. Адукацыйная справа, добра наладжаная, настаўнікі, адказваючыя свайму стану, добрыя адносіны да вучняў — усё гэта гаварыла само за сябе. Слава школы пачала расьці, пачаў расьці і лік вучняў. Цяпер езуіты сьмела маглі адчыняць свае школы і ў другіх мясцох. Праз нейкі час мы бачым езуіцкія колегіумы ў такіх гарадох, як Полацак, Смаленск, Несьвіж, Мсьціслаў, Віцебск, Менск, Орша, Магілёў і г. д. Школа зрабіла сваю справу добра. Дзеці шчырых працаўнікоў рэфармацыі і праваслаўя сталі шчырымі каталікамі. Прыкладаў ёсьць шмат. Чатыры сыны Мікалая Радзівіла Чорнага пад уплывам езуіцкай адукацыі прынялі каталіцтва. Адзін з іх прыняў нават сан і зрабіўся пасьля сьмерьці Валярыяна Пратасэвіча віленскім біскупам. Другі сын, Мікалай, празваны Сіротка, затраціў 500 чырвонцаў на тое, каб знайсьці кнігі бібліі, каторю выдаў яго бацька, і сьпаліць іх рукою ката. Тое самае было і ў фаміліі вядомага абаронца і заступніка праваслаўнай веры, князя Канстантына Астрожскага. Яго сыны перайшлі ў каталіцтва, а ўнучка, для пашырэньня каталіцтва, ужо крыўдзіла тых, каму дапамагаў і за каго заступаўся яе дзед.

Робячы ўплыў на моладзь, езуіты не забыліся і пра шырокія масы грамадзянства. Там яны працавалі праз школу, тут праз царкву. Ужо ў 1572 годзе езуіты дасталі для свайго набажэнства касцёл сьв. Яна ў Вільні Шмат грошай затрацілі яны, каб гэты касьцёл рабіў уражаньне на масы. Быў пастаўлены

арган, заведзена выдатная музыка і сьпевы. Народ вялікаю грамадою павалііў да новага касьцёлу і даў слухачоў для езуіцкіх казаньняў. Хутка касьцёламі і кляштарамі пакрылася ня толькі Польшча, але і Беларусь. Абноўленае і пасіленае езуітамі каталіцтва пачало выціскаць лютэранства, кальвінізм, унітарства і др. вучэньні рэфармацыі. Вышэйшыя станы беларускага грамадзянства, зацягнутыя раней ў рэформацыйны рух, цяпер пераходзілі ў каталіцтва. Вядома, што, напрыклад, у Вільні праз 5 гадоў ад прыезду езуітаў навярнуліся ў каталіцтва каля 6 тысячаў жыхароў места.

Такім чынам каталіцтва заняло месца рэфармацыі сярод беларускіх магнатаў, шляхты і часткі мяшчан. Стаўшы каталікамі, яны рабіліся палякамі, бо згінула тая, важная да таго часу, розьніца, якая была паміж імі і польскай шляхтай і магнацтвам. Для іх ужо непатрэбна была рэлігійная вунія, бо яны палітычна, сацыяльна і рэлігійна былі ўжо адным народам з палякамі.

Але, апроч магнатаў і шляхты, жыў яшчэ на Беларусі і просты народ, каторы ў час рэфармацыі астаўся някрануты яе ўплывам. Ен дзяржаўся праваслаўнай веры. Цяпер трэба было зьвярнуць увагу і на яго. Падыйсьці да яго проста было трудна, бо ён, як народ цёмны, ня цікавіўся запутанымі догматычнымі тэорыямі і дзяржаўся свае веры толькі затым, што яна прышла да яго розуму і пачуцьця па традыцыі ад яго дзядоў і бацькоў. Трэба было падыйсьці да яго абходным шляхам. Як такі шлях, езуіты і прапанавалі Царкоўную вунію, каторая прывяла-б сялянііна да каталіцтва паступова, не нарушаючы яго традыцыяў. Трэба прызнацца, што шлях быў прыдуманы разумны. І па гэтым шляху можна было б цьвёрда і пэўна прыйсьці да мэты, калі-б каталіцкі ўрад Польшчы быў такі добры палітык як езуіты.

Думка аб вуніі ня была выдумана езуітамі. Яна існавала даўно сярод разумнейшых людзей, і яе прабавалі рэалізаваць яшчэ ў 1439 годзе ў Флёрэнцыі. Людзі рэлігійнага настрою хварэлі сэрцам, бачучы разьдзел хрысьціянства і спадзяваліся, што вунія скасуе гэты разьдзел і парушыць загарадку паміж царквамі. І на Беларусі думка аб вуніі вынікла ў лепшых людзей, каторыя думалі, што яна збудуе нацыянальную царкву і прынясе згоду, што злучэньне каталіцкай і праваслаўнай веры ня будзе мостам для пераходу з аднае веры ў другую, а пэўным праўдзівым злучэньнем. Вядома, што такі шчыры праваслаўны і шчыры беларус, як князь К. Астрожскі, адзін час падзержваў ідэю вуніі. Ен стаў проці вуніі толькі тады, калі пабачыў, якая вунія прапануецца.

З працоўнікаў — езуітаў у справе вуніі мы павінны адзначыць вядомага ў свой час тэолёга і прамоўца, рэктара Віленскай езуіцкай акадэміі, Пятра Скаргу. Ен напісаў твор пад назовам: „Аб еднасьці царквы Божай і аб грэцкім ад гэтай еднасьці адступленьні". У гэтым творы ён апісвае такія недахопы ў царкоўным праваслаўным жыцьці Беларусі таго часу. Праваслаўныя сьвяшчэньнікі маюць жанок і сем'і; дзякуючы гэтаму, яны больш клапоцяцца аб сваіх уласных справах, чымся аб справах царквы. Яны агрубелі і зрабіліся, як „хлопы". Набажэнства ў праваслаўнай царкве адпраўляецца ў мове славянскай, дзеля чаго сьвяшчэньнікі ня ведаюць грэцкай і лацінскай моваў, без каторых ня можна знаць навукі, бо навука выкладаецца толькі ў гэтых мовах. У жыцьцё праваслаўнай царквы на Беларусі ўмешваюцца сьвецкія асобы, у рукі каторых папалі нават і япіскапы. Каб зьнішчыць усе гэтыя недахопы, трэба зрабіць вунію праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Пры гэтым, праваслаўная царква можа пакінуць сабе ўсходні абрад, яна павінна толькі прызнаць галавою ўсяе царквы Хрыстовага намесьніка ў Рыме, папу, і прыняць вучэньні каталіцкай царквы.

Мы ня будзем рабіць разбору ўсяго зьместу твору Скаргі. Усе гэтыя тэолёгічныя размовы былі толькі размовамі, пад каторымі крылася палітычная мэта. Мы прыпынімся толькі над некаторымі фактамі жыцьця праваслаўнай Царквы ў Беларусі, каторыя закрануты Пятром Скаргаю.

Справа ў тым, што праваслаўная

царква! ў Беларусі была ў тыя часы ў цяжкім становішчы. Ей былі нанесены тры ўдары: адзін рэфармацыяй, другі адроджаным каталіцтвам, трэці — палітычным польскім уплывам. Найранеи за ўсё, рэфармацыя ўзяла ў царквы лепшыя сілы на сваю творчасьць; адроджанае і арганізованае каталіцтва рабіла тое самае. Люблінская вунія, якая прынясла польскі дзяржаўны і сацыяльна-культурны ўплыў, ставіла праваслаўную царкву ў паніжанае палажэньне, бо дзяржаўнай вераю Польшчы было каталіцтва. У той час, напрыклад, як каталіцкія біскупы мелі месца ў Сэнаце, праваслаўныя япіскапы іх ня мелі. Старажытнае ў Беларусі права патранату сьвецкіх асобаў і установаў над царквою ў даны мамэнт было таксама шкадлівым для палажэньня царквы. Калі раней Літоўска-Беларускі вялікі князь, магнат, шляхціч, ці ўся грамада былі патронамі, апякунамі, абаронцамі цэркваў ці царкоўных установаў, то гэта давала царкве абарону і эканамічную сілу. Патроны клапаціліся аб тым, каб царквы мелі добрых сьвяшчэньнікаў, былі забясьпечаны і г. д. Але гэты мэдаль меў і адваротны бок. Патрон меў права ўмяшацца ў жыцьцё царквы. Часта рэфармацыя рабіла патрона пратэстантам, польска-каталіцкі ўплыў—паляком і каталіком. Разумеецца, такі патрон ня мог мець аніякай пашаны да свае ўстановы, а часьцей ён толькі шкодзіў ёй. На чале праваслаўных япархіяў, манастыроў, цэркваў такі патрон ставіў карысных і прыемных яму людзей, каторыя бачылі ў сваіх пасадах ня духоўны абавязак, а „духоўны хлеб“. Бывалі і такія здарэньні, што патроны давалі манашацкую пасаду асобе жанатай і сьвецкай; гэтая асоба лічылася „нарэчэнным“ япіскапам ці ігуменам і кіравала паставаю цераз вікарыя, астаючыся ў мірскім стане. Пэўна, што патрэбаваць ад такіх асобаў духоўнай асьветы і пабожнага жыцьця ня было магчыма. Усе памяткі таго часу сьведчаць аб нягодным і непадоэным жыцьці духавенства вышэйшага і ніжэйшага, чорнага і белага. Адзін сучасны твор так малюе гэты недахоп царкоўнага жыцьця таго часу: „Аще ли кто вопрошает их (духоўных асоб) о книгах, то отвещают глаголюще: убози есьмы, не имамы чим книг стяжати. Ходят же не яко убози, но ризы носяще светлы и блещащэся, расиряюще воскрыльля, шеи же яко у тельцов, на заколеніе упитанных! ученик много, паче же поворов множество, а другая-же стыд и глаголати.

# Народы Беларусі.

На зямлі беларускай жыве 16 міліёнаў людзей. Самых беларусоў — 12 міліёнаў. Апрача беларусоў тут жывуць: палякі, ліцьвіны, жыды, расейцы, немцы, латышы і татары.

Ня ўсе беларусы ведаюць, хто яны такія. Нашым краем доўгі час валадалі палякі ды расейцы. І тыя і другія стараліся перарабіць нас на свой капыл: палякі на палякоў, а расейцы — на расейцаў. Гэта ім часткова ўдалося. Нашы тутэйшыя паны, шляхта, а часам і мяшчане лічаць сябе палякамі, а запраўды—яны беларусы.

Затое ўсякіх урадоўцаў ды іншых беларусаў, што пакончылі расейскія школы, ды прывыклі гаварыць парасейску, расейцы перацягнулі на свой бок. Яны таксама не прызнаюцца да свайго беларускага роду, лічаць сябе расейцамі і чураюцца свае роднае мовы. Запраўды велікаросаў-расейцаў нават у гарадох мала, На вёсках сустракаюцца часамі велікарусы-стараверы. Іх шмат ёсьць каля Гомеля і Дзьвінска.

Ужо некалькі стагодзьдзяў, як яны ўцяклі да нас са свайго краю, дзе іх моцна ціснулі за іх веру. У местах, часам і ў дварах, можна сустрэць і праўдзівых палякаў. Яны пераехалі калісь з Польшчы на службу да нашых вялікіх князёў. Вялікія князі параздавалі

некаторым з іх вялізныя абшары зямлі і цяпер яны лічаць, што гэта зямля польская. Але гэтая зямелька нашая, як была, так і засталася беларускай, бо на польскага пана працаваў беларускі селянін-гаротнік.

Жыды перайшлі ў Беларусь з Нямеччыны ды Польшчы. Яны ўзялі ў свае рукі ўвесь гандаль і рамяство ў гврадох і мястэчках. На вёсках іх мала, бо там, апрача беларусоў, блізка што ніхто ня жыве. Беларусы вызнаюць пераважна праваслаўную веру, значна меншая частка іх вызнае каталіцкую веру. Якой-бы веры ня быў беларус, ён усё роўна застаецца беларусам, калі ён ім радзіўся.

Немцы таксама вызнаюць дзьве веры: лютэранскую і каталіцкую, але і адны і другія ўсе роўна немцы. Ніколі каталік немец не назаве сябе паляком, або французам, бо немцы сьвядомы народ.

Трэба, каб і ўсе беларусы былі сьвядомымі беларусамі. **А. Смоліч**

# Вільня.

Хоць лягенда кажа, што Вільню залажыў Літоўскі князь Гэдымін, аднак у летапісах гаворыцца аб тым, што ў 1128 годзе віленцы выбралі сабе за князя аднаго з беларускіх полацкіх князёў—Расьціслава. Не вядома, хто залажыў Вільню, але гэта было шмат раней за часы Гэдыміна, і Вільня была беларускім местам. Нават, калі літоўскія князі перанясьлі сюды сваю сталіцу, большую частку гораду займалі беларусы. Тады гэта было вялікае, багатае і культурнае места. Гандлёвае жыцьцё біла крыніцай; было шмат розных школаў, друкарняў.

У XVII веку беларускую культуру пачала выціскаць культура польская. З гэтага часу пачаўся заняпад Вільні.

Вільня ляжыць у катлавіне, абкружанай з усіх бакоў гарамі. З захаду і паўдня ідуць Панарскія горы, а з усходу, ля самае Вільні высяцца пяшчаныя горы — Замковая, Трохкрыжавая і Бякішовая. На поўнач ляжаць Шашкавыя горы. Пасярод катлавіны цячэ Вільля, і тут, у яе ля поду Замкавае гары ўпадае Вялейка

У Вільні засталося шмат старасьветчыны. Дзясяткі старасьвецкіх касьцёлаў і цэркваў падымаюць свае вежы над Вільняю.

Вільня была цэнтрам нацыянальнага беларускага руху. Тут выдаваліся першыя беларускія газэты і кніжкі, закладаўся першы беларускі тэатр і навуковыя таварыствы, а таксама і беларускія школы.

З Вільні разыходзяцца чыгункі ў пяцёх кірунках. Яны злучаюць Вільню простымі лініямі з захадам і поўднем Беларусі. Хвабрычная прамысловасьць у Вільні даволі разьвіта Па гандлю гатовай адежаю, футрамі, вобуем Вільня займае вельмі віднае мейсца на ўсім усходзе Эўропы. Апрача таго, Вільня зьяўляецца галоўным, гандлёвым цэнтрам Беларусі і для іншых тавараў. Адгэтуль тавары разыходзяцца ня толькі па Беларусі і Літве, але нават і далей за іх межамі.

Ваколіцы Вільні надта харошыя Ад самага места ўва ўсе бакі расьцягнуліся прадмесьці аж да лясоў, што абкружываюць з усіх бакоў Вільню. Ужо і сярод лесу вырастаюць вуліцы, кварталы і цэлыя новыя прадмесьці.

Адно з важнейшых і старэйшых прадмесьцяў— Антокаль—цягнецца на 6 верст уздоўж левага берагу Вяльлі.

З гораў, што абкружываюць Вільню, адкрываюцца надзвычайна прыгожыя віды на места Вільню і на ўсю ваколіцу.

На Замковай гары дагэтуль ёсьць руіны замка, пабудаванага князем Гэдымінам.

З іншых харошых ваколіцаў Вільні трэба ўспомніць аб Панарскіх горах, Закрэце, Паплавах. Мала хіба ёсьць мест, якія-бы мелі такія прогожыя ваколіцы, як Вільня. **А. С.**

# Разборка праваслаўнае царквы.

Расейская газэта „За Свободу“ падае наступнае. Гарадзкая Рада м. Вострава, Владаўскага павету, самачынна бяз ведама і згоды, як вышэйшае царкоўнае ўлады, так і адміністрацыйнае ўлады, пастанавіла разабраць каменную царкву ў гэтым мястэчку, пабудаваную 37 гадоў таму назад на сродкі праваслаўных гандляроў, а цяпер зачыненую.

Каб магчы хутка выканаць пастанову Рады, Магістрат вызначыў каталікам прымусовую павіннасьць, пагражаючы за няяўку на разборку царквы караю па 15 зл.

Зразумела, праца закіпела.

Спачатку пачалі здымаць сьв. крыж з купала і зьбіраць дах. Але тут здарылася нешта страшэннае. Здымаючы 8 лістапада з царквы крыж каталік Гаюта праз два дні ўжо быў трупам: 10 лістапада, рубаючы ў лесе дрэва, ён быў задушаны зваліўшымся на яго дрэвам.

Праваслаўнае насельніцтва, абуранае разборкою яго сьвятыні, запратэставала: яно выслала ў Варшаўска-Холмскую Кансісторыю сваіх дэлегатаў для даклада аб самавольлі Магістрату і каталікоў. Епархіяльная ўлада безадкладна паведаміла аб гэтым вышэйшую адміністрацыйную ўладу.

У сувязі з такой інтэрвэнцыяй яўная дзеўная праца па разбурэньню царквы спынілася, за тое пачалася патаемнае, па начам, разбурэньне царквы. Каталікі ўначы, пад прыкрыцьцём цемнаты, прабіваліся ў сярэдзіну царквы і нішчылі ўсё, што пападалася пад рукі. Такім чынам былі разбураны іканастас і алтарная частка царквы.

Падчас аднае з такіх начных экспэдыцыяў, караючая рука Усявышняга зноў апусьцілася на аднаго фанатыка-сьвятататца, які зрываў са сьцяны запрастольны вобраз. Пры гэтай сваёй агіднай працы фанатык святататца пасьлізнуўся, упаў і зламаў сабе руку. Ня гледзячы на дохтарскую дапамогу, атрыманую ім у мяйсцовым шпіталі фанатык гэты памёр.

У сувязі з разбурэньнем гэтае царквы украінскі пасол Хруцкі зрабіў у Сойме адпаведную прапазыку, але большасьцяй галасоў, як і належала чакаць, сьпешнасьць гэтае прапазыкі была адкінена.

Газ. „За Свабоду“ выказвае абаву, што пакуль у Соймавай камісіі, куды здана прапазыка пасла Хруцкага, дойдзе калейка да разгледжаньня гэтае справы, дык ад праваслаўнае царквы ў Востраве нічага не застанецца.

---

# Рэзалюцыя Вярхоўнай Рады Р. Н. А. па царкоўнаму пытаньню.

У выходзячым у Львове „Русском Голосе“ пеадазены рэзалюцыі, прынятыя Вярхоўнаю Радаю Р Н.А. на паседжаньні 18-19 мінулага лістападу ў Варшаве.

Падаем наступную рэзалюцыю па царкоўнаму пытаньню:

„Вярх. Рада праслухаўшы даклад Кашарэвіча аб становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, пастанавілі: 1) выявіць перад Міністэрствам Вызнаньняў рашучы пратэст проціў антыканстытуцыйных учынкаў Ураду адносна іярархаў, сьвяшчэннаслужыцеляў і маемасьці Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Учынкі гэтыя выяўляюцца ў умешываньні ў унутраныя, чыста кананічныя пытаньні Царквы,—у стварэньні незалежных ад іерархіі духоўных школаў.

Вярх. Рада Р. Н. А. бачыць грубае парушэньне ўнутранай свабоды Царквы ў утварэньне пры Міністэрстве асобнай камісіі для перакладу царкоўных кніг, складаючайся пераважна з асобаў рымска-каталіцкага вызнаньня. Вярх. Рада Р.Н.А. заяўляе пратэст проціў незакон-

нага атабраньня царкоўных земляў на ўсходніх крэсах[без згоды прадстаўнікоў Праваслаўнай Царквы і парцэляцыі царкоўных земляў у Холмшчыне і Падлесьсі, часова ўзятых пад кіраўніцтва Дзяржавы і распарцэляваных сярод каталіцкага насельніцтва, а таксама заяўляе пратэст проціў зьмяншэньня праў мяйсцовага насельніцтва, выяўленага ў адданьні земляў іншаверцам. Урэшце Вярхоўная Рада пратэстуе проціў перашкодаў, якія робяцца міністэрствам вызнаньняў мітраполіі ў справе скліканьня Мітрапалітальнае Рады і г. д.

2) Вярх. Рада Р. Н. А. зварачваецца да Мітрапаліта з просьбай, каб ён стаў на абарону праў Праваслаўнай Царквы і заклікаў да гэтай абароны ўсіх іярархаў, духавенства і паству.

3) Даручыць нашаму [паслу ў Сойме даручыць асабіста Мітрапаліту гэтую рэзалюцыю і выступіць па гэтаму пытаньню з соймавай трыбуны".

Гэтая рэзалюцыя ясна гавора аб тым, што перашкоды для скліканьня Мітрапалітальнае Рады, а значыць і Краявога Сабору ставяцца з боку ня Уладыкі Мітрапаліта. Дык чаму гэта расейская газэта „За свободу" ломіцца ў адчыненыя дзьверы і вінаваціць у гэтым Мітрапаліта? Ей-жа, як вельмі блізкай да Р. Н. А. павінна быць ведама тое, што ведама ў гэтай справе сябром Р. Н. А. Перакладаньне віны за нясклікаварньне Рады Мітрапалітальнай і Сабору на Главу Царквы пасьля прыняцьця вышэйшай рэзалюцыі сьведчыць аб тым, што альбо гэтая рэзалюцыя была прынята беспадстаўна, альбо „За Свободу" імкнецца да нейкіх скрытых мэтаў, дык няхай яна аб гэтым і напіша.

Што датычыць заклікаваньня Мітрапаліта да абароны Царквы, дык тая перапіска з Міністэрствам, з якою была азнаёмлена Мітрапалітальная Рада, як раз застаўляе нас на мяйсцох падумаць аб тым, ці мы запраўды бярэм прыклад цьвердасьці і стойкасьці ў абароне Царквы з Главы Царквы.

Тут мімаволі ўспамінаюцца словы Крылова: „чѣм кумушек считать трудиться, не лучше-ли на себя оборотиться"

---

# Стан заканавучыцельскае справы у Віленскай Япархіі у 1928 г.

(П р а ц я г)

Амаль усе а.а. заканавучыцялі адзначаюць неабходнасьць выкладаньня царкоўнага сьпеву, бо ў праціўным выпадку з бегам часу можна ўцерпіць прыгожасьць багаслужэньня, што было-б вельмі не пажадана. Слабым бокам гэтае справы зьяўляецца тое, што ня ўсе псаломшчыкі, як кіруючыя хорам, так і выкладаючыя пяяньне, знаходзяцца на адпаведным роўні. Само жыцьцё высоўвае пытаньне аб арганізаваньні рэгенцкіх курсаў — або для усяе япархіі ў Вільні, або па благачыньням на мяйсцох.

Адным з балючых пытаньняў, на якое таксама зварачваюць увагу а.а. заканавучыцялі, зьяўляецца адносна рэдкае хаджэньне ў царкву. Добра было-б каб школьныя ўлады наглядалі за хаджэньнем у царкву вучняў, што звязумоўна робіцца ў польскіх школах адносна вучняў каталікоў. Вымагаць гэтага адносна праваслаўных вучняў даволі цяжка, а падымаць пытаньне аб гэтым у афіцыяльным парадку і зусім немагчыма, бо магло-б страціць свой аўтарытэт праваслаўнае духавенства. Што ж датычыць апошняга—дзякуючы раскіданасьці школаў па прыходу і далёкай адлегласьці мейсца жыцьця вучняў ад царквы, прыходзкае духавенства, зьяўляючаеся звычайна і заканавучыцялямі, фізычна ня ў стане вясьці беспасрэдны дагляд і кантроль над хаджэньнем вучняў у царкву. Робіцца ў гэтым кірунку толькі тое, што магчыма

пастырам—навучаньне падчас лекцыяў Закону Божага і царкоўнага казаньня. Справа магла-б палепшыцца, калі-б у школы з пераважаючым лікам праваслаўных вучняў назначаліся праваслаўныя вучыцялі, на што паказваюць у анкеце, у форме пажаданьня, некаторыя законавучыцялі—але дабіцца гэтага абсалютна немагчыма, бо такое вырашэньне пытаньня не адпавядала-б правадзімым на „крэсах" тэндэнцыям апалячаньня і акаталічаньня мясцовага няпольскага насельніцтва.

Разам з неабходнасьцю ўвясьці навучаньне царкоўнаму пяяньню, высоўваецца а.а. законавучыцялямі і другое пытаньне — аб выкладаньні царкоўна-славянскае мовы. Калі ў свой час не зьвярнуць на гэта адпаведнае ўвагі, лёгка можа здарыцца, што надыдзе пара, калі самае адпраўленьне багаслужэньня будзе вельмі цяжкім, бо ў прыходзе можа ня стаць асобаў, чытаючых паславянску. Аднак цяжка надумаць нешта канкрэтнае ў гэтых адносінах, бо павялічэньне ліку лекцыяў, што, ясна, вельмі пажадана—наўрад ці магчыма, калі нават для самага выкладаньня Закону Божага выдзяляюцца нейкія „podliczbowe godziny", а выдзяленьне на царкоўна-славянскую мову хаця-ж-бы мінімальнае колькасьці часу з вызначаных цяпер на выкладаньне Закону Божага гадзінаў немагчыма.

Зазначаюць а.а. законавучыцялі і некаторыя ад'емныя зьявы ў школьным жыцьці праваслаўных. Сьв. Макары Хвядось (с. Хацічыцы, Вілейскага бл.) паказвае на неабходнасьць забараніць кіраўнікам школаў каталіцкага вызнаньня, вясьці з праваслаўнымі дзяцьмі гутаркі, якія-б маглі ўскалыхнуць іх слабыя яшчэ паняцьці аб праваслаўнай веры, як гэта мела мейсца ў Хаценчыцкай школе (Вілейскае бл.). А пр. Павал Макарэвіч (Вішнеўскі прыход, Валожынскае бл.) выказваецца за забарону праваслаўным вучням прымаць удзел у агульнай каталіцкай малітве перад і пасьля лекцыяў, падчас якое іх змушаюць хрысьціцца "наадварот", г. зн. пакаталіцку. Скромнае пажаданьне сьв. Язэпа Коўшыка (Вярхнінскі пр., Глыбацкае бл.) аб тым, каб праваслаўным дзецям было дазволена мець у школах падручнікі Закону Божага „ў іх роднай мове"—паказвае на тое, што ў школах забараняецца карыстаньне няпольскімі падручнікамі; той самы сьвяшчэньнік выказвае пажаданьне, каб дазвалялась рабіць у школах з дзяцьмі і дарослымі рэлігійна-маральныя гутаркі ў іх роднай мове, а таксама ладзіць і царкоўныя сьпеўкі — пэўна, што гэта ўсё таксама забараняецца. Такі-ж самы характар мае пажаданьне сьв. Нікіфара Майсенка—мець у школах праваслаўныя абразы і служыць малебны перад пачаткам і канцом занятак у школьным годзе. Цяжкае ўражаньне робіць пажаданьне сьв. А. Іванчыка, каб вучыцялі ня змушалі праваслаўных дзяцей у школе хрысьціцца пакаталіцку і вучыць, пад пагрозаю кары, каталіцкія малітвы. Нельга пакінуць без адпаведнага адказу афіцыяльнае паведамленьне, атрыманае а. пр. К. Жалязоўскім (Радашкаўскі пр., Маладзечненскага бл.) ад Ураду Macierzy Polskiej Szkolnej аб тым, што яе школы прыватныя і дзеля гэтага яна ня будзе плаціць за лекцыі праваслаўнай рэлігіі. Тут павінна быць адно з двух — ці ня прымаць у школы Macierzy праваслаўных дзяцей, ці навучаць іх на падставе законаў Рэспублікі праваслаўнай рэлігіі, падобна таму як навучаюцца каталіцкай рэлігіі дзеці каталікі. На сумныя думкі аб стане выкладаньня Закону Божага наводзіць пажаданьне сьв. К. Сьцейнікава — каб кіраўнікі школаў не перашкаджалі законавучыцялям займацца царкоўным пяяньнем, а таксама і царкоўна-славянскаю моваю; ці пажаданьне сьв. Цітовіча аб дазволе праваслаўным вучням чытаць малітву перад лекцыямі паславянску ня толькі на лекцыях Закону Божага (праваслаўнага).

Некаторыя а. а. законавучыцялі прыйшлі да выніку аб неабходнасьці ўвядзеньня пасадаў наглядчыкаў за выкладаньнем Закону Божага, што змусіла-б а. а. законавучыцялёў яшчэ з большай стараннасьцю адносіцца да справы і бязумоўна адбілася-б на памяншэньні ліку прапушчаных лекцыяў, зрабіўшы самае выкладаньне больш інтэнсыўным. Па азначанаму пытаньню,

у сувязі з пастановаю Япархіяльнага зьезду 29 сьнежня 1927 г. аб дастаўленьні а. а. благачынным права візытацыі школаў для нагляду за выкладаньнем праваслаўным дзецям Закону Божага—прадстаўлен даклад Яго Найсьвяшчонства ў сьв. Сынод 14 траўня 1928 г. № 1718.

На пытаньне палепшаньня самога выкладаньня Закону Божага адказамі анкеты высунены два праэкты: арганізацыя зьезду а. а. заканавучыцялёў для апрацоўкі мінімальных праграмаў. такіх, якія-б можна было-б прайсьці ў тыя некалькі гадзін, якія вызначаны школьным раскладам на выкладаньне Закону Божага, і арганізацыя курсаў для заканавучыцялёў, на якіх можна было-б прастудыяваць новыя мэтоды выкладаньня, а таксама асьвяжыць веду, што было-б вельмі карысна для справы.

Да ліку пажаданьняў чыста тэхнічнага характару, скіраваных да палепшаньня справы выкладаньня Закону Божага адносіцца выказанае а. Е. Сурвілай пажаданьне, каб заканавучыцель мог вясьці лекцыі з кожным аддзелам ці групай паасобна, у залежнасьці ад веды і праграмы кожнай групы, а ня злучаць, як гэтага вымагае, дзеля эканоміі платы заканавучыцелю, школьная ўлада.

Высунены адным заканавучыцелям праэкт арганізацыі нядзельных школаў, што дало-б магчымасьць навучыць хаця-б пачаткам славянскае мовы, а гэта зьяўляецца, як сьцьверджана анкетай, у сучасны момант неабходным. Два гады таму пытаньне аб гэтых школах узбуджалася Епархіяльнаю ўладаю перад вышэйшымі ўладамі, але было вырашана адмоўна.

У адказах многіх сьвяшчэньнікаў праглядае моцны пэсымізм у паглядзе на сучасны стан, як заканавучыцельскае справы ў Япархіі, так і наагул на адносіны праваслаўнага насельніцтва да рэлігіі. Зачапляючы пытаньне аб рэдкім хаджэньні вучняў у царкву, аўтары анкеты прапануюць рожныя сродкі ўплыву ня толькі на вучняў, аб чым было сказана вышэй, але і на бацькоў. Сьв. В. Савіцкі прапануе налажэньне школьнымі ўладамі грашовых караў на тых бацькоў, якія не пасылаюць дзяцей у царкву. Іншыя заканавучыцялі кажуць аб тым, што хаджэньне ў царкву трэба зрабіць „абавязкам“, але абавязак заўсёды прадбачыць і кару за невыкананьне яго, г. зн., між іншым, тыя-ж грашовыя кары. Прызнаўшы нават добрым гэты праэкт, цяжка было-б надаць яму характар законнага сродку.

З другога-ж боку ёсьць аўтарытэтныя паказаньні а. а. заканавучыцялёў, што школа сама па сабе і часткова лекцыі Закону Божага, зьяўляюцца толькі адным з элемэнтаў, уплываючых на ўтварэньне маральнага аблічча падрастаючага пакаленьня, што ня меншая, калі ня большая роль належыць ў гэтай справе сям'і. Адзін з заканавучыцелёў сьв. Н. Крукоўскі проста кажа, што школа сама па сабе ня можа зрабіць значнага ўплыву на дзяцей, бо ўсё залежыць ад сям'і, ад уплыву абкружачай сфэры, ад уплыву ў першую чаргу старэйшых і бацькоў. Што датычыць апошніх, дык скрайная беднасьць іх пад цяжарам падаткаў не дае магчымасьці падумаць аб чым іншым, апрача задаваленьня матар'яльных жыцьцёвых патрэбаў; прычым трэба прыняць пад увагу, што вялікая адлегласьць мейсца жыцьця вучняў ад царквы не дае магчымасьці сьвяшчэньніку, пры найвялікшай шчырасьці, рабіць бязупынны, несаслабны ўплыў на моладзь.

Такія агульныя вывады, якія можна зрабіць з дадзенных прыведзеных а. а. заканавучыцялямі ў адказах анкеты і караткіх, скупых камэнтарыях, далажаных да адказаў на 13 пытаньняў анкеты.

# Пратакол.

1928 года, сьнежаня 27 дня Духавенству Даўгінаўскага благачыньня, быўшаму прысутным на Благачыньніцкім Сходзе 27 сьнежаня, было даложана настаяцелям Ужскай Царквы а. пратаярэям Аўгеням Ружыцкім, што нядаўна назначаны сьвяшчэньнік Княгінінскае царквы а Іаан Спрогіс, назначаны Віленскай Духоўнай Кансысторыяй і зацьверджаны Яго Сьвяшчэнствам Архіяпіскапам Хвядосіям Даўгінаўскім благачынным, мае ў сваім жыцьці факт адмовы ад іярэйскага чыну. Дзякуючы гэтаму прысутныя на благачыньніцкім Сходзе сьвяшчэньнікі, у ліку сямёх асоб, мелі паміж сабой дыскусію па даному пытаньню. Адным з старэйшых іярэяў Даўгінаўскага благачыньня было даложана, што а. Іаан Спрогіс запраўды падаваў заяву ў іспалком (які ня памятуе) аб тым, што ён **абманным спосабам быў уцягнены ў духоўны чын і ня хочучы быць трутнем, здымае з сябе духоўны сан** і жадае быць актыўным працаўніком — рабочаю пчалою ў будаваньні Савецкае Дзяржавы. Іншыя сьвяшчэньнікі сьцвердзілі, што запраўды яны нешта падобнае чулі ад а. Іаана Спрогіса.

Ня маючы на мэце пуставаць проціў пазбаўленьня а. Іаана Спрогіса яго сьвяшчэннага сана, так як гэта справа Епархіяльнае Улады, прысутныя сябры духавенства Даўгінаўскага благачыньня аднак не маглі не рэагаваць на вышэй пададзены факт, і калі-б а. Іаан Спрогіс быў назначаны ў С. Княгініна толькі сьвяшчэньнікам, не маглі-б нічога сказаць проціў таго, будучы паслухмянымі сваяму Епархіяльнаму Начальству і Уладыцы Архіяпіскапу, але назначэньне а. Іаана Спрогіса благачынным над іярэямі, зрабіўшага такі цяжкі праступак, зьяўляецца абразай і дапусьціць гэтага немагчыма. Ніжэйпадпісаўшыяся сябры Даўгінаўскага благачыньня падаюць Віленскай Духоўнай Кансісторыі і Уладыцы Архіяпіскапаў свой аднагалосны пратэст і згаджаюцца на назначэньне іх благачынным аднаго з іншых іярэяў благачыньня Назначэньне а. Іаана Спрогіса Даўгінаўскім благачынным зьяўляецца абразай для духавенства благачыньня і ня можа быць дапушчана.

Падпісалі:

Прат. А Ружыцкі, сьв. Аўд. Ракецкі, прат. І. Імшэньнік, сьв. І. Шчасны, сьв. П. Семянткоўскі, сьв. М. Руткоўскі і сьв. О. Хіла.

# Балючая справа.

Ужо каля 10 гадоў як, будучы выкінутымі з сваіх мяйсцоў, змушаны былі ўціснуцца ў падвалы Траецкіх муроў у Вільні манашкі Віленскага і Бярэзьвіцкага манастыроў. Дзесяць гадоў гэтыя працоўніцы жывуць у сырых і халодных падвалах у той час, калі ня гледзячы на агульнае ненармальнае становішча праваслаўнае царквы, усё-ж прыходзкае жыцьцё неяк упарадкаўваецца. Толькі гэтыя няшчасныя працоўніцы ўсімі забытыя і пакінуты. Жывуць яны выключна ручною працаю: шыюць. вышываюць рожныя рэчы, галоўнымі заказчыкамі іх пераважна зьяўляюцца жыды. Мяйсцовая духоўная ўлада ня толькі не дапамагае ім матар'яльна, а былі нават з яе боку спробы ападаткаваць на сваю карысьць і гэты цяжкі і жабрацкі заробак манашак.

Цяпер і бяз гэтага труднае становішча манашак становіцца яшчэ больш цяжкім. Пасьля пераходу Траецкіх муроў на ўласнасьць Польскае Дзяржавы прадстаўнікамі ўлады запрапанавана епархіяльнай уладзе звольніць ад манашак і занятыя праз іх падвалы. Пад націскам сьвецкае мяйсцовае ўлады,

духоўная ўлада ня прыдумала нічога іншага, як шукаць для іх мейсца на... Валыні Такім чынам гэтым выхаванкам і працоўніцам запраўдных разсаднікаў праваслаўя ў Заходняй Беларусі, двух манастыроў адыграўшых вельмі значную ролю ў царкоўным жыцьці нашае бацькаўшчыны—Беларусі, у найбольш цяжкую для іх хвіліну, на нашай бацькаўшчыне не знаходзіцца для іх мейсца. Ад іх стараюцца пазбавіцца як ад сваякоў-жабракоў, іх стараюцца сьпіхнуць далей ад сябе, на... Валынь.

Чаму гэта так робіцца? Таму, што кіраўнічае становішча ў нас займаюць людзі нічога супольнага ня маючыя з духова-нацыянальным жыцьцём народа, што гэтыя людзі ня зьвюць царкоўнае гісторыі нашага народу, а дзеля гэтага ня ўмеюць і ня могуць шанаваць таго, што згуляла такую вялікую ролю ў царкоўным жыцьці праваслаўных беларусаў.

Для праваслаўнага беларускага грамадзянства зьяўляецца ганьбаю 10-ці гадовае сядзеньне ў падвалах манашак гэтых двох слаўных манастыроў; цяпер гэтую ганьбу хочуць яшчэ павялічыць, выганяючы іх зусім з нашае бацькаўшчыны. Ці яны для нас цяпер шкодны, ці для іх ня можа знайсьціся мейсца на Беларусі? У нас ёсьць прыходы матар'яльна зусім забясьпечаныя, ім трэба і даць такія прыходы. Няхай і далей ціха робяць сваю сьвятую справу. Праваслаўнае беларускае грамадзянства ня можа прыняць на сябе віну за вельмі цяжкое становішча азначаных манастыроў. Віна за гэта ляжыць на тых, хто стараецца зусім выкінуць іх за межы Беларусі.

АЛІ.

# ХРОНІКА.

### Новы „Місіянер“

У ўльшчынскай пачатковай школе вучням каталіцкага вызнаньня выкладаў рэлігію вуніяцкі псаломшчык Рэброўскі. На яго лекцыі пад прымусам прыганяліся і праваслаўная вучні, як быццам дзеля таго, што пры школе няма рэкрэацыённай залі, калі тым-жа праваслаўным дзецям рэлігію выкладаў сьвяшчэньнік, дык вучні-каталікі на гэтыя лекцыі не прыганяліся, хаця таежа залі таксама няма. Цяпер па загаду дзісенскага школьнага інспэктара „місіянерская“ праца Рэброўскага спынена.

Назначэньне Куратара Віленскага школьн. вокругу загадам п. Прэзыдэнта Рэспублікі Куратарам Віленскага Школьнага Вокругу вызначаны С. Погожэльскі, які дагэтуль часова выконываў абавязкі Куратара.

---

Дырэкцыя Віленскае Беларускае Гімназіі ў паразуменьні з Дабрадзейным Т-вам, маючы на мэце падняцьце да адпаведнае вышыні як агульнага стану гімназіі, так унармаваньне і ўпарадкаваньне матар'яльнага пытаньня за ўтрыманьне вучняў у інтэрнаце, разаслала ўсім бацькам і апекунам вучняў і вучаніц гімназіі паведамленьні аб посьпехах іх, а таксама аб тым, каму і колькі, у залежнасьці ад посьпехаў, вызначана плаціць у Гімназію за навуку і за ўтрыманьне ў інтэрнаце.

Частка вучняў, якія карысталіся поўнай стыпэндыяй, альбо часткаю яе, —за слабыя посьпехі ў першых паўгодках г. г. пазбаўлены стыпэндыі зусім, альбо часткова. Адначасна з гэтым вучням, якія зусім не карысталіся стыпэндыяй, альбо карысталіся ёю часткова і выявілі добрыя посьпехі,— вызначана поўная стыпэндыя, альбо павялічана тая частка якою, яны дагэтуль карысталіся.

Запрапанавана, каб кожны вучань, які жыве ў інтэрнаце меў уласныя рэчы: 1 падушку, 2 пошыўкі, 2 посьцілкі 1 коўдру, 3 пары бялізны і 3 пары скарпэтак.

Вучняў, якія жывуць у інтэрнаце,

кормяць пяць разоў на дзень:

У $7^1/_2$ гадз. зрана— першае сьнеданьне
„ 11 „ дня—другое сьнеданьне
„ 2 „ „ —абед
„ 5 „ вячэра—падвячорак.
„ 8 „ „ —вячэра.

---

## Беларускае Дабрадзейнае Т-ва.

19 сьнежаня 1928 г. у памешканьні Беларускае Гімназіі адбыўся агульны сход сяброў Беларускага Дабрадзейнага Таварыства.

Пастаноўлена высьвятліць задоўжанасьць сяброўскіх складак паасобных сяброў і запрапанаваць ім безадкладна ўнясьці ў касу Т-ва належныя складкі Сябры ня ўнёсшыя складак на працягу паўгоду, на падставе § 11 Статуту Т-ва выкрэсьліваюцца з ліку сяброў.

Пастаноўлена прыняць новых сяброў і наагул ажывіць дзейнасьць Т-ва і пашырыць яго працу.

На тым-жа агульным сходзе быў абраны новы Урад Т-ва і Рэвізыйная Камісія.

У Урад тайным галасаваньнем выбраны грам. Сакалова-Лекант, А. Міхалевіч, сьвяшч. А. Коўш, Банцлебэн і Грышкевіч, і кандыдатамі: інжынэр Трэпка, К. Крук і інш.

У Рэвізыйную камісію такім-жа чынам абраны: грам. Р. Астроўскі, Ул. Лукашэвіч і М. Сіняўскі і кандыдатамі: Галяк і Станкевічыха.

Згодна з § 2 Статуту Беларускае Дабрадзейнае Т-ва мае на мэце апеку як матар'яльную, так і маральную над беларускаю асірачонаю і незаможнаю моладзьдзю, а таксама ўсякую іншую дабрадзэйную чыннасьць.

§ 3 Статуту дае права Т-ву закладаць і ўтрымліваць прытулкі для дзяцей старцаў, яслі, інтэрнаты, патранаты і т. п. інстытуцыі.

Пакуль-што Дабрадзейнае Т-ва найвялікшыя высылкі пакладае на ўтрыманьне інтэрнатаў пры Віленскай Беларускай Гімназіі.



---

# ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22